# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Біскупская вул. 12. Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана кожнага нумару 30 м. Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. да хаты). Перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк. і на апошняй страніцы 70 мк за радак пэтыту ў 1 шпальт.

Год I. Вільня. Пятніца, 23-га верасьня 1921 г. № 13.

## Пятнаццаць гадоў.

Гэй наперад, покі сэрца
Б'ецца, рвецца на прастор...
*Янка Купала.*

14-га верасьня (разумеецца старога стылю) 1906 году зьявіўся на вуліцах Вільні першы нумар першае легальнае за нашы часы беларускае часопісі „Наша Доля“.

Недоўгавечная была гэта часопісь. „Апякунчая“ адміністрацыя царска-расейскае ўлады не дала ёй доўга пажыць. Яна грубым спосабам фізычнае сілы задушыла „Нашу Долю“, якую зьмяніла шырака вядомая „Наша Ніва“, стварыўшая сваім, ня так ужо й даўгім, істнаваньнем цэлую эпоху ў нашай адраджэнскай літэратуры.

У нашыя дні мы ўжо сягнулі ў новую пару, ў пару „Нашае Думкі“.

Лёс гэтае апошняе вельмі падобны да першае ластаўкі літэратурнага адраджэньня—„НашаеДолі“.

Ад „Нашай Долі“ да „Нашай Думкі“ ўсяго толькі пятнаццаць гадоў.

Гэткі кавалак часу для агульнай гісторыі амаль што нічога ня значыць сваім невялічкім разьмерам, але нязьмерна вялікі ён у гісторыі адраджэньня нашага пісьменства.

Аб значэньні друкованага слова наагул няма чаго сказаць, пасьля словаў Бісмарка, які празваў прэсу „шостаю вялікаю дзяржавай“. Ня будзем аб гэтым казаць лішнія словы, й бяручы пад увагу значэньне друку дзеля беларускага нацыянальнага руху.

Першыя, сьмелыя крокі па шляху адраджэньня зроблены, першыя пятнаццаць гадоў літэратурнага жыцьця на гэтым цярністым шляху пяражыты.

Пазволім сабе спомніць тыя сівыя часы далёкай ад нас мінуўшчыны, калі, як сказаў адзін наш малады гісторык, „мова беларуская ня была простаю моваю нашага часу“ (Ігнатоўскі. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі).

Спомнім сабе тыя слаўныя часы вольнага культурнага разьвіцьця ў часе Літоўскага пэрыяду гісторыі нашага народу, калі мы не рабілі культурніцкіх апазьненьняў у параўнаньні з тымі, хто сягоньня нас моцна выперадзіў, а навет мы былі наперадзе.

Гэтак, у 1445 г. Ян Гутэнбэрг надрукаваў у Нюрэнбэргу першы раз нямецкую біблію. Усяго толькі праз 28 гадоў у... Кракаве (1483 г.) выйшла з друку першая беларуская друкованая кніга. Друкованая беларуская Біблія выйшла ў 1517 г. Што датычыць Масквы, дык там першая друкованая расейская кніга, Апостал, зьявілася толькі ў 1573 г., або на 90 гадоў пазьней за першую друкованую беларускую кнігу.

Першая беларуская друкарня ў Вільні зьявілася ў 1525 г., а польская—ў 1576 г., або на 51 год пазьней. У Маскве зьявілася першая друкарня ў 1563 г., або на 80 гадоў пазьней за першую беларускую друкарню.

Друкарская беларуская справа тых часаў абавязана бяссьмертнаму ў нашай памяці Францішку Скарыне.

Пісьменства і друк беларускі асабліва расьцьвілі ў палове XV сталецьця, калі шмат местаў і (ў сучасныя нам дні) мястэчак мелі беларускія друкарні.

Слаўны пэрыяд культурнага росквіту зьмяніўся затым польскімі ўплывамі, а Польскі пэрыяд нашай гісторыі зьмяніўся на яшчэ страшнейшы пэрыяд—Маскоўскі.

Толькі першыя подыхі няўдалае расейскае рэвалюцыі 1905—6 г.г. далі магчымасьць зрабіць і беларусам першы крок па шляху свайго пісьменскага адраджэньня.

Па гэтым шляху ідзем мы ўсяго толькі пятнаццаць гадоў.

Гэтыя 15 гадоў не бяссьледны.
Дык, з новаю вераю—ўперад!

## Верма ў сваю школу.

### I.

Ніхто, пэўна, ня будзе спрачацца з тым, што палажэньне беларускае школы ў межах Польскае Рэспублікі над'звычайна благое. З беларускаю школаю няма ніякай цэрамоніі збоку школьнае адміністрацыі, збоку паноў інспэктароў.

Інспэктар! Якое бясьсьмертнае слова. У Польшчы ня выдумалі ніякага іншага слова, каб замяніць ім гэтае цікавае слова — „інспэктар“. Народ наш, часамі, вымаўляе яго крыху йначай: „іншпэктар“.

Гэтым словам ні аднаго з нас палохалі ў дзіцячыя гады на лаўках пачатковых школ у вёсках.

У вясковыя школкі іншы раз зьяўляліся яны, гэтыя паны „іншпэктары“— да 1905 году, з нейкімі палетамі на плячох, — наводзячы жах на палахлівую вясковую дзятву.

Інспэктары былі Зэўсамі-грамабойцамі для бедных вясковых вучыцялёў у часе расейскага панаваньня; ня менш грозныя яны ў сучасны момэнт, вядучы паход проці беларускае нацыянальнае школы, нягледзячы на соймавую пастанову ў Дзяржаўнай Польскай Конституцыі аб праве нацыянальных меншасьцяў на сваю родную школу, мову і інш.

Але-ж... але-ж.

Хіба тут ужо паўстае пытаньне аб беларусах, навет, як аб нацыянальнай меншасьці.

Яно-ж, праўда, знаходзяцца ягамосьці, што лічаць беларусаў, так сабе, за нейкі „odłam“ польскае нацыі, ну як быццам нешта падобнае да... мазуроў, куяваў, кашубаў і іншых адценкаў польскае народнасьці.

Хаця да ўсяго гэтага мы падобны, як той казаў, „бы кашаль да хваробы“; ведама-ж падобны мы можа й досіць моцна да сэрбаў, баўгараў, чэхаў і шмат яшчэ якіх аднакроўных народаў-славянаў.

Але-ж ні нам, ні ім ня дана моральнага права паядаць адзін аднаго, бо хапае-ж такі, пакуль што, месца пад сонцам не для адных толькі й славянаў.

Вернемся, аднак, да школ і школьных інспэктароў. У расейскія часы разуменьня беларусаў, як нацыянальнае меншасьці (дзе ўжо там!) не істнавала. Ня думаў ніхто аб нас, як і аб „инородцах“.

„Русские—дый годзі.

А праз гэта, і школа для ўсіх была адна — „русская“.

Мне дасканальна невядома, як выглядала ў тыя праклятыя часы пачатковая школа ў этнографічнай Польшчы, ў тэй Польшчы, якую ўсё такі расейцы й тады за нешта-нейкае лічылі, добра ведалі, дзе жывуць сапраўдныя палякі, бо землю іх называлі крыху далікатнейшыя маскоўцы—„Привислинским краем“, ваенныя расейцы звалі проста „Варшавским округом“, а офіцыяльная ўрадовая расейская мова — яшчэ прасьцей, падвышала тытулам „Царство Польское“.

Мяжа гэтага, сьвятой памяці, „царства“ польскага была недалёка ад тэй мясцовасьці, дзе мне давялося быць вясковым вучыцелем з 1912 году. Служыў я ў Сакольскім павеце ў 7 вярстох ад самае Саколкі.

Нягледзячы на некаторы ўплыў польскае мовы на нашую ў Сакольшчыне,—сяляне там—нашыя браты-беларусы, хаця тады, праўда, лічылі яны сябе палякамі, бо аб гэтым цьвярдзілі ім палянізатары ксяндзы, „ляхамі“ лаяў іх пры розных дапросах, ці проста так сабе, станавы прыстаў ды паліцэйскі вураднік.

Аднак гаварылі гэтыя сяляне дый ведама, што гавораць і будуць гаварыць заўсёды сваею беларускаю моваю, лічачы яе, з вядомае прычыны, моваю простаю.

Вось у Сакольшчыне, дык я вельмі добра пазнаў тады, што такое значыла адважыцца ўвясьці хоць каплю беларускасьці ў школку. Пазнаў гэтак сама і што такое быў расейскі школьны інспэктар.

Быў гэта нехта „Инокентий Петрович Дмитревский“ інжэнер-тэхнолёг, як значылася на яго візытнай картачцы. Быў гэта сабе „статский советник“, для характарыстыкі якога даволі будзе расказаць, што равідуючы суседнюю з маею школу, дзе вучыцелем быў сьвядомы украінец, які пабываў вучыцелем і ў самым „царстве“ польскім, інспэктар наш заўважыў энцыклёпэдыю Брокгауза й Эфрона ў ліку ўласных кніг вучыцеля. У школе гэтай інспэктар заначаваў і ня спаў цэлую ноч толькі таму, што, перакінуўшы некалькі томаў, не знайшоў там нічога аб гэткім вялікім чалавеку зямлі рускай як... „Владимир Митрофанович Пуришкевич“.

Былі ў энцыклёпэдыі, як казаў інспэктар, розныя жыды (?): Родичевы, Милюковы ды іншыя, а вось „Митрофаныча“ ня было. Інспэктар усердаваўся і ніяк ня мог надзівіцца „чаму гэта пазваляюць у Расеі друкаваць расейскімі літарамі... жыдоўскія кнігі“, — як ён, пасьля бяссоннае ночы, казаў.

Сягоньня мы знаходзім у „Бел. Звоне“ заметачку аб тым, што ў Сакольшчыне ў мінулым годзе істнавала тайна беларуская школка. Для Сакольшчыны гэта не навіна, бо істнавалі тайныя, праўда, польскія школкі там і ў часы расейскага панаваньня.

У зьвязку з гэтымі тайнымі школамі і барацьбою з імі царскае адміністрацыі, ў мяне самога было вельмі цікавае здарэньне, якое лішні раз засьведчыла разумовую убогасьць майго тагочаснага начальніка, павятовага сакольскага інспэктара.

Што за ён быў, як інжэнер-тэхнолёг — Бог яго ведае, а што, як чалавек, ён быў вельмі недалёкі — сьведчыць не адно толькі здарэньне з энцыклёпэдыяй Брокгауза і Эфрона.

На гэты раз я змагу расказаць толькі крыху аб тайных польскіх школах.

Што ні адна можа гэткая школа істнавала ў суседніх з маім офіцыяльным „народным училищем“ вёсках, аб гэтым я мог лёгка дагадацца па шмат якіх прыметах, напр., усе першагоднікі, за вельмі малымі выняткамі, зьяўляючыся ў маю школу вучыцца, былі ўжо знаёмы з польскай граматаю і з такім-сякім лічэньнем ды лічбамі. Апрача таго, заваяваўшы за першую зіму вучыцельства поўную веру, спачатку досіць варожых да мяне, сялян, я мог саўсім дасканальна даведацца, дзе й якія вакол мяне тайныя школы, але гэтага я проста такі й ведаць не хацеў, каб не псаваць нарыхтованых ужо добрых адносін з сялянствам.

І вось аднаго разу адтрымаў я пакет ад павятовага спраўніка (нешта накшталт сучасных павятовых старастаў) з надпісам „конфідэнцыяльна“. У пакеце быў сакрэтны цыркуляр паведаміць павятовую паліцыю аб ліку тайных польскіх школ у районе офіцыяльнае школы.

Я ніяк ня мог зразумець, якое дачыненьне мае да мяне паліцыя, бо з ёю нічога супольнага па сваёй службе, як вучыцель, я ня меў.

Хаця колегі мае — вучыцялі й вучыцелькі суседніх школаў на гэты цыркуляр адказавалі непасрэдна спраўніку альбо няведаньнем, альбо проста, што вакол іх ніякіх тайных школ няма, я зрабіў крыху йначай: з такім самым надпісам „конфідэнцыяльна“ паслаў спраўніцкую паперу свайму начальніку, інспэктару Дзьмітрэўскаму, з просьбаю растлумачыць, ці ўваходзіць у мае службовыя абавязкі спаўненьне падобных цыркулярных паліцэйскіх загадаў.

Крок быў зроблены можа крыху й адважны, як на той час, але лёгічна магчымы і, нямоцнага на розум, інспэктара ён змусіў даволі доўга думаць.

Паліцыя, відаць, тлумачыла неспаўненьне мною цыркуляру беспасрэдна— простаю канцэлярскаю неакуратнасьцю, чаго сярод нас тады доўга шукаць ня

трэ' было, а інспэктар, пасьля досіць доўгага часу, мне адказаў простаю ссылкаю на нейкі цыркуляр інспэктара беластоцкага павету, што аб тайных школах павінны паведамляцца інспэктары. Аб паліцыі ў адказе ня было, ні слова.

Цікава ад'значыць, што ў канцы паліцэйскага цыркуляру гаварылася, што рэч гэта зусім сакрэтная і насяленьне аб даносах вучыцялёў нічога ведаць ня будзе.

Калі-б у цяпэрашнія дні ў Сакольшчыне гэтак сама пастунаў у аналёгічных выпадках датычна беларускіх тайных школ вучыцель польскай школы, дык я быў-бы зусім спакойны.

Але з зьменаю часаў, зьмяняецца й этыка ў людзей.

Аб маіх, можа й нявінных на сягоняшні пагляд, спробах беларусізацыі школы ў тыя прыкрыя часы, аб „нарымскіх" прапазыцыях інспэктара дый яшчэ аб тым, аб сім — да другога разу.

**М. К.**

---

**Суліма.**

## Ад безьзямельнага батрацтва да дзяржаўнай незалежнасьці.

*Перамога ірляндзкага хлебароба над Англіяй.*

Тое, што дзеецца цяпер паміж Ірляндыяй і Англіяй, павінна цікавіць кожнага сьвядомага беларуса, як яго ўласнаа кроўная справа, як справа яго роднага народу.

Перш за ўсё—гэткая сымпатыя і спагаданьне да народу, які рашыўся перамагчы, ці памёрці ў барацьбе за сваю волю й незалежнасьць, расьціць і пашырае душу кожнага, здольнага да гэткага пачуцьця чалавека, паднімае яго да вышыні тых ідэалаў, без якіх ня можа істнаваць у ім разуменьне свае чалавечае вартасьці.

Але ня менш важна дзеяньне гэткага высокага прыкладу барацьбы на цэлы народ,—на колектыўную нацыянальную душу.

Яшчэ важней і павучальней выгляд гэроізму і канцавое ўдачы шматгадовае, здавалася, безнадзейнае барацьбы для народу, пастаўленага ў падобныя варункі, для народу, якому гэтулькі дэмонаў ныцьця, гэтулькі райцаў рабскае пакорнасьці, гэтулькі ворагаў-паразытаў на яго душы і целе бесьперастанку цьвярдзяць аб безнадзейнасьці для яго, калі-б там ні было, дасягнуць таго, што зьяўляецца вянком жыцьця і разьвіцьця кожнага народу, — што павінна быць заўсёднаю мэтаю яго ўпартых імкненьняў з момэнту зараджэньня ў ім нацыянальнае сьвядомасьці.

Хай кожны беларус ведае, што ўсё тое, што гаворыцца цяпер аб беларускім народзе, ўсё гэта цьвярдзілася заўсёды гэткімі самымі ворагамі-паразытамі і аб народзе ірляндзкім.

„Немагчымая нацыя",—гэткая назва, якою здаўна замянялі ў Англіі ўласнае імя ірляндзкага народу.

І аднак-жа гэтая «немагчымая нацыя» ў цяперашні час выяўляе сабою зусім насьпеўшы дзеля ўласнага дзяржаўнага быцьця арганізм, з прадстаўніком гэтае «немагчымае нацыі» вядзе перагаворы, як роўны з роўным, прадстаўнік вялізарнейшае ў сьвеце дзяржавы—непараўнанае з бедным і, нібыто, нядужым ірляндзкім народам магутнасьці.

І тое, што ўпрацягу 700 гадоў было „немагчымым", — заўтра, — ў бліжэйшыя дні — стане ня толькі магчымым, але—рэальным фактам сучаснасьці:

Новая дзяржава—Ірляндыя,—ўвайдзе ў складзе вялікае брытанскае конфэдэрацыі, ў сям'ю вольных народаў сьвету.

---

Мне здаецца, што гэты яскравы прыклад, які цешыць лепшыя пачуцьці вольных народаў,—прыклад шчасьлівага завяршэньня шматгадавой гэроічнай барацьбы вялікага, любячага волю, стаўшага вартым прадмету сваей любові народу,—гэты прыклад павінен мець асаблівае значэньне для нашага народу беларускага.

Беларускі народ—у самым пачатку таго шляху, які толькі што амаль ня скончыў народ ірляндзкі.

Ў гэтым, ведама-ж, вялізная паміж імі розьніца.

Але розьніца гэта, як кажуць, лічбенная: розьніца ўва ўзросьце, ў колькасьці вярстоў, пройдзеных па жыцьцёвым шляху гістарычнага разьвіцьця.

Ня трэба пераацэньваці гэтай розьніцы, палохацца шляху, які стаіць наперадзе. Куды важней тое, што з кожнай перамогаю, з кожнаю новаю ўдачаю ў барацьбе за вызваленьне толькі што яшчэ падняволенага народу, — ў вялізнай ступені скарачаецца стаж рабства і тэрмін барацьбы для іншых, прыгнечаных народаў: тое, на што Ірляндыі спатрэбілася 700 гадоў, цяпер, быць можа, займе часу ў 10, а мо' і ў 100 разоў меней.

Яшчэ важней, мне думаецца, тое, што, пры сказанай розьніцы ў палажэньні Ірляндыі й Беларусі, паміж імі істнуе вельмі шмат унутранае сходнасьці.

І мне здаецца, што звучэньне гэтае сходнасьці, яе раскрыцьце лепш за ўсё малаверных беларусаў навучыць веры ў свае сілы і канцавую ўдачу барацьбы за волю й незалежнасьць, а невукам пакажа рэальныя шляхі і способы барацьбы за дасягненьне таго, што бяз гэткага знаньня й досьледу старшых братоў — шмат трудней і марудней можа быць дасягнена.

---

Галоўная рыса сходнасьці паміж Ірляндыяй і Беларусяй—тая, што абодва краі—амаль што чыста аграрныя.

«Зялёная выспа», як завуць Ірляндыю, як і Беларусь, амаль што ня мае свае індустрыі і заселена земляр бамі.

Быў час, і яшчэ вельмі нядаўні, калі амаль ня ўся зямля Зялёнае выспы належала да т. зв. „лендлёрдаў", — г. зн. зямельных магнатаў - абшарнікаў, якіх яшчэ шмат цяпер у нас у Беларусі. Ўсе земляробы, ствараўшыя багацьце краю ня мелі зямлі на праве ўласнасьці, а былі толькі арандатарамі, якіх шмат яшчэ й цяпер у нас у Беларусі.

Значыцца, беларускі земляроб, што ў большасьці мае, хаця й недаволі зямлі, але затое на праве поўнае ўласнасьці,—у значна лепшым палажэньні, чымся яшчэ нядаўна быў хлебароб ірляндзкі.

За нашай памяці яшчэ адбывалася аканчальнае і зусім мірнае заваяваньне ірляндзкім фэрмэрам зямлі ўва ўласнасьць ад паразытуючага на ёй лендлёрда.

Трэба аддаць справядлівасьць Англіі й сучаснаму яе прэм'еру прыватна, што ангельскі парлямэнт шмат памог справе вызваленьня ірляндзкага гартая ад кабалы ірляндзкаму пану.

Вось-жа, першы крок ірляндзкага народу - гартая на шляху свайго вызваленьня быў зроблены: ўпартаю спакойнаю працаю, ня спыняючыся аднак перад дружным паўстаньнем са зброяю ў руках на абарону сваіх правоў, паняверaных лакомымі панамі,—ірляндзкі земляроб заваяваў крыніцу багацьця краю—інструмэнт свае працы і свае магутнасьці—зямлю.

Затым пачалася арганізацыя краю, аб'яднаньне асобных гаспадарак у саюзы гаспадарчыя, нацыянальна-грамадзкія і, на эшце, палітычныя. Расла еднасьць краю, без якое ня можа быць у народу ўласнага гаспадарства: асобныя фэрмэры, занятыя толькі сваімі гаспадаркамі, ніколі не выяўлялі-б ніякае сілы й невялічкі ваенны аддзел лёгка пабіў-бы іх усіх паадным.

Але й гэтае, стаўшае моцным народным дасягненьнем агульнанацыянальнае аб'яднаньне, ні нарастаўшае багацьце краю яшчэ не давала, самім сваім быцьцём, народу незалежнасьні і ўласнага гаспадарсьцьвеннага быцьця: яно толькі зьяўлялася бязумоўным варункам, перадпасылкаю, без якое прэтэнсія народу на дзяржаўную незалежнасьць ня мела-б ніякіх шансаў на ўдачу, засталася-б пустою прэтэнсіяй і, ў выпадку часовае ўдачы, скомпромэтавала-б у вачох усяго народу сьвятую ідэю вызваленьня.

(Канец будзе).

## Маленькі фэльетон.

### У газэтчыка.

Што газэтчыкі народ досіць някультурны—усім ведама.

Яны зусім ня ўмеюць абходзіцца з газэтамі, піхаюць іх у свае торбачкі бяз ніякага разбору, нягледзячы на іх індывідуальныя асобнасьці, якраз як жандары бяспашпартных.

І вось здарылася, што гэтакі лёс спаткаў чатыры мясцовыя газэты: „Jednaść", „Krynicu", „Страху" і „Беларускі Звон".

Першая падала голас Jednaść:—Ай, як тутака душна!—Праўда, ма шэр—адазвалася Страха—хоць-бы ён не зачыняў нас, а то тут і дыхаць няма чым... У гэты момэнт яны заўважылі Krynicu. Сьціпла пакланіўшыся ёй, яны разявіліся каб загаварыць, але Krynica кіўнула ім галавой і адышла ў куток; там яна выняла з кішаня ружанец і, перабіраючы яго, зашаптала пацеры. Тады Jednaść і Страха пырхнулі да Беларускага Звону: А, пане Звон, як маецеся?—Ізноў званю—адазваўся той і так сьціснуў паданыя рукі паненкам, што тыя доўга трасьлі імі, каб рашчаміць склееныя пальцы. Бедная «Страха» паглядзела сьлёзнымі вачыма на Jednaść:—Ма шэр, ці гэта «Беларускі Звон»? — Пасьля аб гэтам пагаворым—адказала Jednaść, — а цяпер давай пагуляем у карты!

Ах як добра!—абрадавалася Страха—разложым пасьянс...

— Не, згуляем лепш у „ле Рюсьян Бляншˮ—аўторытэтна сказала Jednaść і зачала картаваць карты. Беларускі Звон адышоўся ў куток, прымасьціўся, сеў і расьцягнуўшы жылаватыя рукі на каленах, глядзеў на паненак з-пад свайго франтаватага, троху не па мерцы, капялюша так, як-бы гаварыў, «р-р-расшыбу!»... Тымчасам, Krynica, ўгледзіўшы гульню паненак, неўцярпела:—Бясстыдніцы, ў касьцеле яшчэ імша не адышла, а вы ў карты заселі!...

Знадворку пачуліся галасы:

— Беларускі Звон маеш?

— Маю, панок.

— Давай яго сюды.

Звон вышаў.

Троху зачакаўшы:

— Хай будзець пахвалёны Езус Хрыстус

— На векі векаў, Амэн.

— Krynički маеце?

— Калі ласка.

Krynica піхнула за пазуху ружанец, пeражагналася і выйшла. У торбачцы чуваць было толькі шуршэньне картаў. Нарэшце, Страха ня вытрывала:

— Ма шэр, я ўжо замаркоцілася, ці ня пойдзем ужо дамоў?

— Не, родная, трэба зачакаць—служба, я дык ужо прывыкла па цэлых тыднях сядзець тут і навет карты ля разрыўку купіла, прывыкай і ты, родная...

**Ясук.**

* * *

Люблю, ня знаючы пуціны,
Ісьці праз лес, балота, гаць,
Мінаць квяцістыя нізіны,
Цераз равы перадзыгаць.

Спаткаць між жыта крыж пахілы
І старца з хлопчыкам малым,
Звычай шануючы нам мілы,
„Дзень добры"—прывітацца з ім;

Прайсьці ўздоўж вёскі беднай, шэрай
З панурым радам сумных хат
І думаць: як ты тут ні мерай,
А ў беднаце гаруе брат;

Ды напаткаць руіны ў полі,
Дзе мох на рэшце сьцен урос
І занудзіцца мімаволі:
Згадаць замчышча гэткі лёс;

Й не зразумець чаму руіны
Ў сабе мінулы тояць жах;
Дык ці-ж ня сьветлы для Краіны
Відаць наперадзе ўжо шлях!

**Ўладзімер Жылка.**

---

**Францішак Аляхновіч.**

## НЯСКОНЧАНАЯ ДРАМА

п'еса ў 4-х актах.

(Гл. № 11).

### АКТ IV.

Дэкарацыя тая самая.

**Зьява 1.**

КОСТУСЬ і ВАСІЛЬ.

КОСТУСЬ. Значыцца сягоньня йдзеш?

ВАСІЛЬ (увязваючы падарожны клумак). Але. Даўжэй ужо няма чаго сядзець. Трэба ўжо. І нялоўка перад Багдзевічам. Я-ж абяцаўся, што сягоньня ўжо пайду.

КОСТУСЬ. Не баішся?

ВАСІЛЬ. Трохі жудасна. Зіма, невядомая дарога, фронт... Але ўсё роўна! Я паставіў на карту ўсё, так як ты іншы раз кідаеш на зялёны стол усе свае апошніе маркі. Адзін з вузлоў, які зьвязваў мяне з Вільняй, ужо парваўся: дзіця памёрла. Шкада мне жонкі, яна шмат нацярпелася і цяпер яшчэ ня можа забыцца аб Альфонсіку, але можа й ляпей, што гэтак сталася. Я ня меў у сэрцы сваім бацькаўскага каханьня, я стараўся споўніць толькі свае абавязкі: я даставаў грошы, грэў малако... Але я ня мог так, як Ядзька, сядзець пры калысцы хворага дзіцяці і з болем у сэрцы глядзець на ціхае заміраньне маленькай істоты. І толькі тады, як пасьля яго сьмерці я прыйшоў у прытулак і пабачыў гэты трупік малога чалавечка, у маім сэрцы зьявілася нейкая неапісаная літасьць і неразгаданае пытаньне: нашто гэтая істотка зьявілася на сьвет, дзе ня было ёй суджана ніякай радасьці спазнаць, а толькі ў муках закончыць сваё кароткае жыцьцё... Вось цяпер, думаю, Ядзька пайшла на могілкі і сядзіць там адна і плача. А я гэтай роспачы зусім не адчуваю.

КОСТУСЬ. Сэрца матчынае інакш адчувае сьмерць дзіцяці.

ВАСІЛЬ. Не, і бацькі ёсьць розные. Я благі бацька, я ведаю. Мне здаецца, што ёсьць людзі, якіх мэта жыцьця—памнажаць сваё патомства, і яны, бяз ніякай філёзофіі, бяз ніякіх пытаньняў сваім здаровым інстынктам любяць свой прыплод. А іншые, стаяць перад фактам паяўленьня на сьвет дзіцяці зьдзіўленые, неспакойные з безадказным пытаньнем у душы: нашто? дзеля чаго зьявіўся між намі няшчаснымі новы чалавек? навошта мы паклікалі ў сваю людзкую грамаду новага мучаніка? нашто?

КОСТУСЬ. Але. Я цябе разумею... Але... Значыцца адна нітка, якая зьвязвала цябе з Вільняй—дзіця—ужо парвалася. Але-ж іншые? Ты-ж тут радзіўся, разам мы тут вырасьлі, няужо-ж бяз жалю кідаеш гэты горад, дзе з кожным каменем на вуліцы, дзе з кожнай цэглай у мурох зьвязаны нейкі ўспамін?

ВАСІЛЬ. Браток! Гэтулькі я тут у апошніе гады нацярпеўся, гэтулькі людзкой подласьці ў адносінах да сябе пабачыў, што хачу хутчэй ужо ўцячы адгэтуль. Праўда,—не бяз жалю. Я гатоў з пашанай цалаваць кожную цэглу ў мурох, абліваць сьлязьмі жалю кожны каменьчык на вуліцы, — але застацца жыць гэтак, якдагэтуль — не магу. Узыходзе сонца мае Бацькаўшчыны і я ляту туды, дзе неба пачынае чырванець на небасхіле, — на ўсход — у Менск. Там узыходзе зара майго новага жыцьця!

КОСТУСЬ. Выбачай, але ты ўсё толькі гаворыш аб сабе... А жонка? Што яна на гэта?..

ВАСІЛЬ. Праўду кажучы, я зусім не спадзяваўся, што Ядзька справу мае падарожы ў Менск прыйме гэтак спакойна. Я думаў, што будуць з яе боку перашкоды, адгаворы, спрэчкі. А яна мне толькі сказала: што-ж? калі тваё шчасьце ў Менску—кажа—ідзі! я перашкодай табе быці не хачу. Калі там табе будзе добра—кажа—калі захочаш, каб я пасьля прыехала—дык добра. А не захочаш—Бог з табой, я жалю да цябе мець ня буду. І гэта яна сказала так ціха, з такім сумным паглядам сваіх васільковых вачэй, што за гэтыя словы я ізноў палюбіў яе. Яна—бедны, няшчасны чалавек, асабліва цяпер, пасьля сьмерці Альфонсіка. Гэтые словы і ўспамін той мі-

# З прэсы.

## Ўражаньні з Валыні.

Пад гэткаю назваю надрукованы ў апошніх нумарох газ. „Robotnik“ (№№ 235, 237, 240, 244...) артыкул вядомага польскага публіцыстага, рэдактара газ. «Trybuna»—Tadeusza Hołówko. Аўтор быў запрошаны сваім шваграм у госьці ў Крамянец, на Валыні, дзе ён меркаваў адпачыць на лоне прыроды. пакаштаваць

«сапраўднага украінскага баршчу з вялізным, забытым у Варшаве кавалкам бэфштэксу і ростбіфу ў «Polonji». Хаця я прыехаў на адпачынак,—піша п. Голувко,—але пісьменьніцкая жылка казала мне прыглядацца, распытвацца»...

Дзеля таго, што аўтор з тонкаю пранікальнасьцю, якая можа быць толькі ў здольнага публіцыстага і поўнай бесстароннасьцю абмалявэў у сваім артыкуле з усіх бакоў палітыку польскага цэнтральнага ўраду і мясцовых уладаў на Валыні, што нічым ня розьніцца ад палітыкі на іншых „kresach“, дык мы хочам падзяліцца некаторымі месцамі гэтага, надта цэннага артыкулу таксама і з нашымі чытачамі, таму што артыкул мае агульную цікавасьць.

«У працягу таго часу, які я правёў на Валыні,—кажа п. Г-ко,—я быў у Крамянцы, Дубне і Роўным.

Я пераканаўся, як ужо неаднакроць пісаў аб гэтым, што Валынь—ня ёсьць край польскі. Польскае насяленьне складае каплю ў моры украінска-жыдоўска-рускім (?—Рэд.).

Пачну з Крамянца...

Абмаляваўшы некаль імі рысамі маляўніча разложаны сярод гораў Крамянец з захаваным у цэнтры гораду будынкам быўшага ліцэю, які наводзіць на думку аб тым, што:

„саўсім гэтак сама выглядаў Крамянец, калі па гэтых залях хадзіў Чацкі, кідаючы свой шматлюбоўны пагляд на вучняў; саўсім такі самы быў Крамянец, калі па гэтым вялізным парку бегаў і гуляў малы Славацкі...

Недалёка ад Крамянца пусты замак Вішнявецкіх, але яшчэ саўсім у парадку, з тэрасным старым паркам. Замак гэты лёгка мог-бы быць адданы ўрадам якой-нібудзь грамадзе, якая магла-б з Вішняўца зрабіць раскошную санаторыю й лецішча для пісьменьнікаў, вучоных, артыстаў...

Але вяртаюся, аднак, да Крамянца.

Крамянец — гэта тыповае руска-жыдоўскае мястэчка. Чуваць толькі жаргон і мову рускую, якою абслугоўваецца жыдоўская сіла.

Палякі—гэта найбалей вураднікі. Тое самае можна сказаць аб Дубне, Роўным.

Аднак Роўна, якое й павярхоўным выглядам выяўляе болей тыповы рускі горад, становіцца буйным прамысловым местам з вялікай будучынай.

У Роўным рыхтуюцца да гандлю з Расеяй і Украінай загранічнай. Заметна, як польскі гандаль мобілізуецца дзеля гандлёвага наступу проці Расеі.

У Роўным ёсьць некалькі асобных паважных польскіх банкаў, гандлёвых дамоў, транспортных таварыстваў і г. д.; затым тысячы «рыцараў гандлю» са ўсяе Польшчы, што чакаюць тае мінюты, калі можна будзе вырушыць проці Расеі.

Праз гэта-ж вось і чуецца ў Роўным сіла рэстаранаў, цукерняў, у якіх гэтыя грашавыя рыцары прапіваюць і праядаюць мільёны“.

Далей аўтор дае абраз бяссыстэмнасьці дзяржаўных закупаў і прыватнай спэкуляцыі мясцовымі сельска-гаспадарскімі прадуктамі, дзякуючы чаму паўстае шалёная дарагоўля прадуктаў, што адбіваецца й на нас.

„Урадлівая валынская зямля дала багаты ўраджай. Праз гэта і зьехаліся з усяе Польшчы людзі, каб купіць валынскі хлеб. А ў рэзультаце вышла тое, што навет без транспортных і пасрэдніцкіх стратаў ён (хлеб) там даражэй, як у Варшаве. Віна за гэта падае, як мне здаецца на ўрад, што цэлы рад урадовых інстытуцыяў закупляюць хлеб, як каму спадабаецца (па własną rękę). Міністэрства землеробства, харчаваньня, ваенная інтэндантура, асобныя палкі і г. д. Кожная з гэтых інстытуцыяў пазваляе сваім агентам закупляць па розных цэнах; часта, гэткім чынам, агент купляе па найбольшай цане, шмат вышэйшай за рыначную. Выходзяць, дзякуючы гэтаму, буйныя злаўжываньні і не падлягае сумлеўку, што вядомы ягомасьць, які заключае умову ў тэй, ці іншай інстытуцыі, ў тым, ці іншым кавалерыйскім палку, зьяўляецца вучасьнікам барышу. У рэзультаце агенты розных дзяржаўных інстытуцыяў конкуруюць адзін з адным, набіваючы шалёныя цэны. Даволі сказаць, што ў той час, як перад жнівом пуд старога жыта каштаваў 600 мк. цяпер, калі я прыехаў, пуд новага, пасьля жніва, каштаваў 900 мк,, а калі праз 10 дзён выяжджаў, цана паднялася да 1300 мк.—у гэткай самай прапорцыі падаражэлі і ўсе іншыя прадукты...

Соймавая камісія па харчаваньню павінна зрабіць запрос аб тым, як робіцца закуп хлеба рознымі ўрадовымі інстытуцыямі і раз назаўсёды палажыць канец тэй анархіі і конкурэнцыі розных, гэтак многіх, інстытуцыяў, гэтак многіх міністэрстваў.

Але горш за ўсё тое, што ў гэтай оргіі прымаюць удзел афіцэры. Сустрэў гэткіх двох паноў: J. і S.—абодва ходзяць у польскай афіцэрскай форме—зьяўляючыся ў той самы час спэкулянтамі апошняга раз меру. Ніхто ня можа зразумець—ці на дзейнай яны службе, ў адпуску, ці ў рэзэрве. Але як-бы там ня было, ходзяць у мундзерах, маюць па дзьве-тры гвяздачкі, робяць дзікія скандалы, б'юць дзягамі жыдовак, як гэта было з уласьніцай готэлю, ў часе майго пабыту ў Роўным—і ўсё сходзіць для іх бяскарна. А гэткіх афіцэраў-спэкулянтаў (geszefciarzy) цягаецца па Валыні цэлая хмара.

(Працяг будзе).

# Замежныя весткі.

## Беларусь і Ліга Нацыяў.

11 верасьня беларуская дэлегацыя была прынята прэзыдыумам Лігі Нац. у Жэнэве. Дэлегацыя падала мэморандум аб беларускім пытаньні.

## Беларусь на конгрэсе прыгнечаных нацыяў.

10 верасьня белар. дэлегацыя зрабіла ў пленарным пасяджэньні конгрэсу прыгнечаных нацыяў у Жэнэве паведамленьне аб палажэньні Беларусі.

## Народная прасьвета ў Сав. Беларусі.

5—8 жніўня адбыўся ў Менску зьезд загадчыкаў павятовых аддзелаў прасьветы ў Сав. Беларусі. Усе дакладчыкі прызнавалі недастачу школьных работнікаў, падручнікаў і грошай. Выясьняецца, што насяленьне мае моцную патрэбу ў школе на роднай мове.

## Колёнізацыя (?) Беларусі сав. ўладаю.

Сав. газэты паведамляюць, што 2.000 дзяцей з Паволжжа перасылаюцца ў Слуцкі павет. Нягледзячы на гуманныя мотывы гэтага распараджэньня, нельга абмінуць і палітычнага значэньня гэтае пасылкі дзяцей у Беларусь.

(Белпрэсбюро).

### Беларускі спэктакль ў м-ку Бароўцы, Ілукстскага пав.

(Ад нашага корэспондэнта).

28. VIII тутака адбыўся беларускі вечар і спэктакль.

Стаўлена была Беларускай трупай Т-ва „Бацькаўшчына“ з Дзьвінску п'еса вядомага беларускага драматурга — Ф. Аляхновіча—„На Антокалі“.

П'еса выклікала вялікія аплёдысмэнты і артысты карысталіся вельмі вялікаю ўдачаю.

Заля была паўнюсенька і, нягледзячы на вельмі танныя цэны, дала вельмі добры збор.

Артыстам і арганізатарам спэктаклю публіка злажыла ліст з падзякамі і запрашэньнямі новай пастаноўкі, а пры ад'езьдзе, які адбыўся раніцай а 6-ай гадзіне зрабіла вялікія овацыі.

### Беларускі спэктакль ў Дзьвінску.

1. IX. 21, з поваду сканчаньня Першых Беларускіх Вучыцельскіх Курсах, у Дзьвінскім Гарадзкім Клюбе адбыўся сямейны вечар курсантаў.

Беларуская трупа Т-ва «Бацькаўшчына» паставіла для курсантаў спэктакль. Гралі п'есу—Ф. Аляхновіча—«На Антокалі».

І слухачы курсаў і запрошаныя на сьвята госьці былі прыемна зьдзіўлены над'звычайна добрай ігрой артыстаў і шчыра віталі іх даўгімі і дружнымі аплёдысмэнтамі.

Усе артысты паказалі вялікую здольнасьць у ігры і падгатоўцы роляў. Кожны з іх быў зусім па сваім месцы і мае права на шчырую падзяку і добрае пёплае слова ў ацэнцы зробленай працы, але, апрача таго, трэба яшчэ асабліва ад'значыць:

выдатны талент маладога рэжысэра трупы грам. Заліўскага, які даў вельмі прыгожы і праўдзівы тып падмайстра Язэпа;

вясёла - тэмпэрамэнтную гульню артысткі К. Сямёнавай, правёўшай ролю Зоські з вялікім пад'ёмам і мастацтвам; і

бязумоўна—буйны талент і здольнасьць да камічных тыпаў артыста Клеменцьева, які ў ролі Віцэнтага застаўляў кожным сваім словам, кожным сваім рухам і крокам шчыра сьмяяцца і громка біць у кацюты ўсю залю.

Пасьля спэктаклю адбылося віншаваньне ініцыятараў, кіраўнікоў і лектароў курсаў.

На ўсіх курсантаў і гасьцей вечар і спэктакль зрабілі самае прыемнае і вельмі моцнае ўражаньне.

15-га рыхтуецца вялікая пастаноўка той-жа п'есы ў мясцовым тэатры, а ў часе паміж 1-ым і 15-ым трупа выехала ў турнэ па мястэчках і вёсках.

На 1 кастрычніка гатовіцца да пастаноўкі ў Дзьвінску п'еса таго самага аўтора—«Манька».

Кін.

### З жыцьця беларусаў-ваякоў у Незалежнай Ліцьве.

27 верасьня Беларускі Асобны батальён будзе сьвяткаваць першыя ўгодкі свайго істнаваньня. Ахвіцэры батальёну пастанавілі ахвяраваць усе грошы, сабраныя на абед у дзень гадавога сьвята, на галадаючых Савецкае Беларусі.

---

нюты, калі мы пры труне дзіцяці, абняўшыся, разам заплакалі, прывязвае мяне да яе больш, чымся самые гаручые закляцьці каханьня, і прысягі вернасьці. А вось нехта йдзе... Мусі яна ўжо варочаецца са службы.

**Зьява 2.**

ТЫЕ-Ж і ЯДЗЬКА (ўваходзіць).

ВАСІЛЬ. Чаму-ж ты сягоньня гэтак позна?

ЯДЗЬКА. Я сягоньня дастала грошы. Я была на могілках і сказала сторажу, каб абчысьціў сьнег на магілцы Альфонсіка... Я сягоньня толькі заўважыла, якое гэта прыгожае месца—узгорак, па бакох растуць маладые бярозкі. Дзякуй пані Маліноўскай, што яна выбрала гэтакае харошае месца!.. Як прыдзе вясна, пасею там кветкі... Васілёк! Трэба будзе паставіць белы невялічкі крыж...

ВАСІЛЬ. Добра, добра... Вясной паставім крыж... Вайна скончыцца. Я вярнуся з Менску, паставім крыж, і будзем ізноў разам жыць... А цяпер, Ядзенька, мне ўжо трэба зьбірацца...

ЯДЗЬКА. Што?! Ты сягоньня ўжо думаеш ісьці? Дык-жа ўжо позна! Пачакай да заўтра.

ВАСІЛЬ. Не, Ядзя! Трэба сягоньня. Гэта нічога, што позна; сягоньня зайду хаця да Рудоміна, там пераначую, а заўтра далей... Каб хутчэй ужо быць у Менску...

ЯДЗЬКА. А грошы на дарогу? Ці маеш ты грошы? Ці даў табе Багдзевіч?

ВАСІЛЬ. Маю пару марак, можа хопе...

ЯДЗЬКА. Вось вазьмі трохі, вазьмі палову маіх грошай, я-ж сягоньня дастала пэнсію...

ВАСІЛЬ. Ды што ты! Здурэла ці што? Як-жа я ў цябе буду браць?..

ЯДЗЬКА. Нічога... Я тут на месцы ў Вільні, а ты будзеш у дарозе. Я дастану, пазычу, калі мне не хваце, а табе неадкуль будзе ўзяць. Бяры, кажу табе!

ВАСІЛЬ. Не, не, Ядзенька! дзякую табе. Не...

ЯДЗЬКА. Ну, Васілёк! прашу цябе! Мне хваце...

ВАСІЛЬ. Ну, хіба трохі... Вось гэтулькі (бярэ частку грошай) рэшту хавай для сябе, болей не вазьму!.. Дзякую табе!..

ЯДЗЬКА. Калі, далібог, чаму-ж так мала...

ВАСІЛЬ. Хваце... Ну, вось клумак ужо гатовы... Можна ўжо зьбірацца...

ЯДЗЬКА. Што-ж ты так мала бярэш з сабой? А порце?

ВАСІЛЬ. Я ўзяў адну сарочку і рукапісы... і годзі, бо цяжка будзе.

ЯДЗЬКА. У печы я паставіла кашу, ты можа зьеў-бы крыху перад дарогай?

ВАСІЛЬ. Не, ня хочацца нічога.

ЯДЗЬКА. Дык вось вазьмі з сабой хаця хлеба кусок, у дарозе захочацца.

ВАСІЛЬ. Я ўжо кусок узяў—рэшта для цябе застаецца... Ну, Ядзенька, так, значыцца... (ня ведае што сказаць). Вось, значыцца, я і йду. А ты, Ядзенька, калі што... ты дрэнна мяне не ўспамінай.

ЯДЗЬКА. Ты ўжо йдзеш, ну, а як-жа ж твая драма?... ты-ж яшчэ ня скончыў!

ВАСІЛЬ. Ядзенька!.. Дзякую табе, дзякую! Першы гэта раз ты зацікавілася тым, што дарага для мяне... Я аб гэтым не запомню! Дзякую табе!.. Але. тут у Вільні ўжо не магу пісаць. Ня хочацца, калі душа рвецца ў Менск. Там ужо скончу...

КОСТУСЬ. (Перад тым быў вышаўшы намамэнт у свой пакой, цяпер варочаецца з рукавіцамі). Ну, браток, хацеў-бы я табе хоць чым-колечы... дапамагчы, але голы як бізун... прайграўся... сам ведаеш...

ВАСІЛЬ. Костусь! Я й так узяў у цябе больш чымся маю валасоў на галаве.

КОСТУСЬ. Гэта нічога... Вось вазьмі на дарогу гэтые рукавіцы... Цяпер зіма, сьцюжа, зьмерзьнеш,—у рукавіцах цяплей...

ВАСІЛЬ. Ха-ха! вось і абдарылі мяне чым хто мог: Багдзевіч—боты, ты — рукавіцы, а Ядзька грошы... а што ўсяго мне даражэй, Ядзенька, гэта тое, што ты зацікавілася лёсам мае драмы... Ах, вы! вы! (напалову сьмяецца, напалову плача, цалуе Ядзьку, пасьля Костуся). Якіе вы ўсе добрые! Аднак страшна! Зіма, фронт, няведамая дарога... (Закрывае вочы рукамі).

(Працяг будзе).

**Ахвяра княгіні Радзівіл Ковенскаму музэю.**

Пераехаўшая на паўсёднае жыцьцё да Коўна княгіня Магдалена Радзівіл ахвяравала Ковенскаму музэю 12 старадаўніх беларускіх паясоў, якія ўжо выстаўлены дзеля агляду.

(„Вольная Литва“).

# Палітычная хроніка.

*Пятніца*, 16 *верасьня.*

— Кандыдатура Гломбінскага на пасаду польскага прэм‘ер-міністра, праз праціўленьне вялізнае большасьці Сойму, адпала.

— Адказ польскае дэлегацыі ў справе новага проекту аб Віленшчыне паданы Гюмансу 13 г. верасьня.

— Камісія па прынятку новых сяброў пастанавіла запрапанаваць сабраньню Лігі Народаў прыняць Лацьвію і Эстонію. Рашэньне аб прыняцьці Літвы адложана да прадстаўленьня літоўскага адказу на проект Гюманса.

— Саветы абвясьцілі ваеннае палажэньне на румынскай граніцы.

— У гутарцы з корэсп. „Kur. Warszawskiego“ міністар унутр. справаў Рачкевіч заявіў, што зьезд ваяводаў устанавіў патрэбу незабаўнага ўвядзеньня выняткова палажэньня ў пагранічных паветах, а таксама магчымасьці пашырэньня гэтага закону на іншыя мясцовасьці. Пастаноўлена рабіць сьпісаваньне ўцекачоў паводлуг нацыянальнасьці і выдзяляць няпольскае насяленьне.

— Міністэрства ўнутр. справаў Нямеччыны паведамляе, што ўжо устаноўлены факт забойства Эрцбэргэра двома быўшымі афіцэрамі корпусу Эргардта. Злавіць іх дасюль не ўдалося і ўсе сьляды іх зацёрты.

— Лацьвія замерваецца адчыніць у Маскве пры сваёй місіі гандлёвае бюро дзеля большае рухавасьці гандлёвых адносін з Расеяй.

— У кругох польскага Сойму, апрача пэ-пэ-эсаў, высоўваецца магчымасьць стварэньня коаліцыйнага кабінэту.

— У Францыі магчыма замена Лушарам прэм‘ер-міністра Брыяна.

— Львоўскія газэты паведамляюць аб заўзятай борцы пятлюраўцаў з бальшавікамі пад Камянец-Падольскам.

— У Петраградзе арыштованы марскі штаб і вывезены ў Варонеж.

— 11 верасьня ў Маскву прыбыў эшалон з 1054 ўцекачамі, *пераважна сялянамі з Гарадзеншчыны*, якія ехалі тры тыдні.

— Прэзыдэнт Ірляндзкае рэспублікі дэ-Валера адказаў Лёйд-Джорджу згодаю на конфэрэнцыю ў Лёндане, калі на гэтых ангельска-ірляндзкіх перагаворах Ірляндыя будзе пастаўлена нароўні з іншымі народамі Брытанскае Імпэрыі.

*Субота*, 17 *верасьня.*

— Паведамляюць, што справа Віленшчыны можа дайсьці да разгляду яе Лігаю Народаў на пленарным пасяджэньні.

— Проф. Ашкіназі прасіў Гюманса адсрочыць конфэрэнцыю аб Віленшчыне з прычыны міністэрскага крызысу ў Варшаве. Аб гэтым Гюманс зараз-жа паведаміў літоўскую дэлегацыю. Конфэрэнцыя адбудзецца пасьля справаздачы камісіі экспэртаў, якая выехала ў Варшаву і Вільню.

— Начальнік Польскае Дзяржавы звольніў кабінэт Вітоса, згодна з просьбаю, даручыўшы весьці справы да часу стварэньня новага ўраду.

— Савецкае украінскае пасольства мае прыбыць у Варшаву праз 10—12 дзён. Дзеля пэрсоналю пасольства адведзены готэль „Вікторыя“ на Яснай вуліцы.

— У зьвязку з прыняцьцем Лацьвіі у Лігу Народаў у Жэнэву выяжджае, як прадстаўнік Лацьвіі, віцэ-міністар заграпічных справаў Сальнаіс—лацьвійскі прадстаўнік у Парыжы.

— Мін-ва загран. спр. Лацьвіі пачало акуратную рэестрацыю ўсіх чужаземцаў. Асобы, нічым незанятыя, будуць выселены з партовых гарадоў, г. зн. Рыгі й Лібавы.

— „Известия“ пішуць, што 2 г. м. ў Хрысьціяніі падпісаны гандлёвы дагавор паміж Расеяй і Норвэгіяй. Дагавор аднолькавы з расейска-ангельскім.

— Паслы ірляндзкіх незалежнікаў (сінфэйнэраў) прыбылі да Лёйд-Джорджа, каб перагаварыць аб агульных пытаньнях.

*Нядзеля*, 18 *верасьня.*

— У паседжаньні, 16 г. м., сэньёрн-конвэнту польскага Сойму 236 галасамі проці 145 пастаноўлена паверыць стварэньне пазапарлямэнтарнага кабінэту рэктару варшаўскае політэхнікі Панікоўскаму, які нібыто мае ад гэтай місіі адмовіцца.

— Учора пачалася ў Рызе конфэрэнцыя балтыцкіх дзяржаваў: Лацьвіі, Літвы, Эстоніі і Фінляндыі.

— Начальнік Польскае Дзяржавы даручыў Панікоўскаму стварэньне кабінэту.

— Аг. „Гавас“ паведамляе, што ў Букарэшце падпісана польска-румынская чугуначная конвэнцыя.

— З Хрысьціяніі паведамляюць, што норвэскі парлямэнт падняў пытаньне аб ратыфікацыі расейска-норвэскага дагавору і прызнаньні de facto савецкага ўраду ў Расеі.

— Турэцкае паведамленьне гаворыць аб далейшым адходзе грэкаў на ангорскім фронце.

— Лёйд-Джордж тэлеграфна заявіў дэ-Валеры, што праз заяўленьне дэлегатаў, прыбыўшых з мэтаю перагавораў ад імя сувэрэннае дзяржавы, бярэ назад умову аб конфэрэнцыі, зазнаючы, што конфэрэнцыя, будучы адбытай на аснове жаданьняў дэ-Валеры, сьведчыла-б аб прызнаньні аддзяленьня Ірляндыі.

*Панядзелак*, 19 *верасьня.*

— 15 г. м. а 6 гадз. папалудні адбылося пад старшынствам Гюманса агульнае паседжаньне дэлегацыяў польскае й літоўскае. Пастаноўлена перадаць справу польска-літоўскага конфлікту Радзе Лігу Народаў.

— У бягучым годзе ў Рызе будзе адчынена літоўская гімназія.

— Рэвалюцыйны камітэт Грузіі налажыў на буржуазію контрыбуцыю ў разьмеры 50 мільярдаў рублёў. Палову гэтай контрыбуцыі— 25 мільярдаў — выпадае на места Тыфліс—сталіцу Грузіі. Уласьнікам сярэдніх крамаў выпадае заплаціць па 200—300 мільёнаў рублёў.

— Паведамляюць, быццам у Маскве студэнты зрабілі дэмонстрацыю проці бальшавікоў, якія на апошнім конгрэсе хацелі зрабіць большасьць, але студэнты прынялі рэзалюцыю проці савецкага ўраду. З гэтае прычына арыштавалі 352 студэнтаў, армія разагнала некалькі тысяч студэнтаў, што пробавалі вызваліць арыштованых колегаў. Усе вышэйшыя школы ў Маскве зачынены і большасьць студэнтаў звольнена.

— Сягоньня Ліга Народаў мае разглядзець справу польска-літоўскага конфлікту і выслухае аб гэтым рапарт Гюманса.

— Позна ўвечары 17 г. м. Панікоўскі, якому даручана быць польскім прэм‘ерам, прыняў прадстаўнікоў прэсы, якім выказаў свой агульны пагляд. Урад мае быць беспартыйным і ставіць заданьнем хуткае скліканьне новага Сойму, зьбіраньне падаткаў, ашчоднасьць, падняцьце вытвару, ў загран. палітыцы—цесны саюз з Францыяй.

*Аўторак*, 20 *верасьня.*

— Па даручэньню П. П. С. пасол Недзялкоўскі і рэдактар Познэр гаварылі з міністрам Скірмунтам аб справах: віленскай і верхня-сьлезкай.

— Прадстаўнік Англіі ў вайсковай камісіі Лігі Народаў выказаўся *за прынятак Літвы ў Лігу.* Гэта падтрымаў прадстаўнік Бэльгіі.

— Экспэрты Лігі Народаў, якія ў хуткім часе маюць прыбыць на плебісцытную тэрыторыю Верхняе Сьлезіі будуць складацца з бэльгійцаў і гішпанцаў.

— „Gazeta Warszawska“ паведамляе, паводлуг вестак з Парыжа, што Англія будзе старацца адначасна вырашыць у Лізе Нар. справы: Віленскую, Сьлезкую і Усх.-Галіцкую.

— Маскоўская чразвычайка паведаміла прэзыдыум выкан. камітэту, аб раскрыцьці контр-рэвалюцыйнага згавору ў гэнэральным штабе чырвонае арміі.

— Чразвычайка засудзіла на сьмерць сяброў грамадзкага камітэту

# Ўсебеларускі Зьезд 1917 г.

**(Рэфэрат чытаны ў Лодзі для афіцэраў Беларускіх Вайсковых Аддзелаў і служачых Беларускай Вайсковай Камісіі 27 кастрычніка 1920 г.).**

(Гл. № 12).

Заснаваліся розныя, як іх называлі „дзелавыя“ сэкцыі Зьезду й некаторымі з іх была зроблена нялёгкая работа. На ўсе балючыя пытаньні, якія сталі перад Зьездам, трэ‘было знайсьці адказ. А пытаньняў гэтых было шмат.

Нямецка-расейскі фронт разрэзаў Зямлю Беларускую на два кавалкі. Царскі Урад выгнаў з Гарадзеншчыны і часьці Віленшчыны (забраных немцамі) каля 1½ мільёна сялянства, якое распарушылася па ўсёй Расеі, не вылучаючы Сыбіру й Сярэдняе Азіі.

Гэту вялізную грамаду людзей трэ‘было вярнуць на свае попелішчы, падняць на ногі, адбудаваць зруйнованыя вёскі й мястэчкі.

Замест разьбітага адміністрацыйнага апарату царскае улады, зараз-жа трэ‘было нарыхтаваць новы.

Трэ‘было скінуць цяжкае бярэмя вайны і даць магчымасьць кожнаму залячыць раны, зробленыя ёю: прытуліць сіротаў, удоваў, калекаў і г. д.

А тым часам на Бабруйшчыне стаяў корпус польскіх легіянэраў гэнэрала Довбор-Мусьніцкага, атачаны зусюль бальшавіцкімі недабіткамі разбэшчанай расейскай арміі. Насяленьне Бабруйскага павету стагнала пад, свайго гатунку, ваеннай дыктатурай польскага гэнэрала, што трымаў свой корпус цяжкімі рэквізыцыямі, бранымі з няцэлага аднаго павету.

Трэ‘было й гэтае хворае месца залячыць.

Трэ‘было, ачысьціўшы ад расейскае анархічнае армейскае масы родную зямлю, папрасіць і польскі корпус выбрацца на сваю бацькаўшчыну.

Ў Берасьці адбываліся міравыя перагаворы бальшавікоў з немцамі. Вайна Расеі з Нямеччынай, так ці йначай перарвалася на землях Беларусі і Беларусь, як зацікаўленая старана, павінна была мець слова на гэтых перагаворах.

Аб гэтым праве Беларусі бараніць самой сваю долю Зьезд мусеў сказаць і сказаў сваё аўторытэтнае слова.

Трэ-было лічыцца ўсё-ж такі з фактам істнаваньня „Совета Народных Комиссаров Западной области и фронта“ і не заплюшчаць вачэй на магчымасьць няроўнае барацьбы з ім.

Трэ‘было з гонарам выйсьці з нязвычайна цяжкага палажэньня.

Праца перад Зьездам паўстала цяжкая і да яе трэ‘было падыйсьці добра згарганізаваўшыся.

Каб пастановы прымаліся больш арганізованна і хутка, Зьезд пастанавіў разьдзяліцца на фракцыі.

Але з гэтай зусім разумнай пастановы дэмагогічныя асобы зрабілі бязглузды раскол, які немаль што не давёў да поўнага развалу Зьезду.

Беларускі пісьменьнік, вядомы яшчэ „Нашай Ніве“ нябожчык Фабіян Шантыр, — які ня раз ужо заяўляў перад Зьездам, што ён бальшавік, але беларускі бальшавік,—адарваў немаль што большую палову дэлегатаў ад рэшты Зьезду простымі крыкамі: „Хто за савецкую ўладу—да мяне“... і інш.

Раскол гэты адбыўся ў Шляхоцкім Доме проці Гарадзкога Тэатру і Шантыр, падтрыманы поклічамі другога скарасьпейнага бальшавіка—Фальскага, пацягнуў за сабою частку Зьезду ў Губэрнатарскі Дом на Пляцы Волі (пры немцах і палякох—Катэдральны Пляц).

Зьезд раскалоўся, але не разарваўся саўсім.

Частка, пацягненая Шантырам улева, мела ў сабе сьвядомых бальшавікоў рабочых-беларусаў з петраградзкіх заводаў, але сярод сялянскае, салдацкае і іншае, асобна нез‘арганізованае, масы дэлегатаў бальшавікі не маглі быць большасьцю.

„Правая“ частка Зьезду ня мела аднаго пэўнага лідэра і складалася ў значнай меры з працоўнае інтэлігэнцыі.

Шантыр дашчэнту асіп, бяз толку агітуючы сярод паверыўшых яму людзей, каб выступалі за савецкую, хоць і беларускую, ўладу.

Нарэшце, яму ўдалося камічна ахрысьціць сваю фракцыю, назваўшы яе: „левое течение“ Ўсебеларускага Зьезду.

Калі імя гэткае было стаўлена на галасаваньне, дык раздаліся зусім зразумелыя пытаньні: «Куды-ж зацячэ гэтае цячэньне, што за праграма ўкладаецца ў словы „левае цячэньне?“.

Аднак опозыцыя гэта не набрала большасьці і, пасьля ўвагі Шантыра, што ён праграму апрацуе, прапазыцыя яго, каб быць «левым цячэньнем», а ня іншым чым, была прынята.

Проці гэткай недапусьцімай работы Шантыра выступалі: ваш пакорны слуга, пскоўскі дэлегат Хаценка (быўшы рэдактар аднэй віленскай газэты) і Асьвяцімскі—пяперашні дзеяч Случчыны.

Моцная опозыцыя Шантыру ў левым яго цячэньні хутка перамагла яго, пакінутага Фальскім, і само „левае цячэньне, страціўшы павадыра, не магло нікуды йначай цячы, як на агульную працу з кірункам, калі так можна назваць яго, правым.

Пачуцьцё нацыянальнае еднасьці й вялікай адпавядальнасьці перад ідэяй адраджэньня брала сваё й раскол Зьезду быў толькі нейкім выпадковым непаразуменьнем.

Ня больш, як толькі два дні Шантыр меў нязьмерную ўдачу ў сваёй фракцыі і гэтыя два дні опозыцыя ня мела сілы зваліць яго. За гэткі кароткі час Шантыр пасьпеў выдрукаваць бязграматную, прынятую большасьцю яго фракцыі, рэзалюцыю, пай-

## Грамадзяне! Спаўняйце сваю павіннасьць, запісвайцеся ў „Т-ва Беларускае Школы!“

### Запісь прыймаецца ў „Беларускай Кнігарні“ (Завальная вул., № 7).

падмогі галодным. Цэнтр. Камітэт Радаў, аднак, устрымаў спаўненьне прыгавору й затрэбаваў дакумэнты па гэтай справе.

— Кабінэтны крызыс у Польшчы падходзіць да канца. 7 соймавых клюбаў на пасяджэньні сэньёрэн-конвэнту знайшлі большасьць. За Панікоўскага, як прэм‘ера, падалі галасы: Пястоўцы — 85, група Скульскага — 43, соцыялістыя — 33, N. P. R.—25, Вызваленьне—23, K. P. R.—16 і мяшчане—11, агулам 236 галасоў, проці 145 галасоў: групы Дубановіча, Стапінскага, Матакевіча, Хрысьц. дэмократаў і Народна-нацыянальнага Саюзу.

*Серада,* 21 *верасьня.*

— Панікоўскі заявіў журналістым, што на першым пасяджэньні Сойму зробіць прапазыцыю аб утварэньні над‘звычайнае Фінансавае Рады дзеля папраўленьня польскіх фінансаў.

— А 3 гадз. ў ночы 20.IX канцэлярыя Н-ка Польск. Дзяржавы агаласіла зьмест пісьма аб назначэньні кабінэту міністраў, паданага Панікоўскім. Міністрам унутр. справаў будзе Стан. Даўнаровіч.

— Пленарнае пасяджэньне Польскага Сойму адбудзецца 27 г. м.

— Паліт. кругі і прэса дапушчаюць, што дэ-Валера ня дасьць адказу на апошнюю дэпэшу Лёйд-Джорджа. Наогул, думаюць, што ангельска-ірляндзкі конфлікт ізноў пераходзіць у форму збройнае барацьбы.

— У Бавары (Нямеччына) дасюль яшчэ няма спакою, ня сьціхае агітацыя на карысьць быўшага прэм‘ера Кара.

*Чацьвер* 22 *верасьня.*

— Учора ўвечары адбылося першае пасяджэньне новага польск. кабінэту міністраў.

— У прайшоўшую суботу Гюманс меў доўгую прыватную нараду з польск. дэлегатам Ашкіназі, якому сказаў, што пры пэўнай уступчывасьці Польшчы магчыма будзе дайсьці да паразуменьня ў справе польска-літоўскае спрэчкі.

— Гэтымі днямі выяжджае ў Харкаў польск. прадстаўніцтва й консулят у Сав. Украіне з п. Пуласкім на чале.

— Прэзыдэнт Чэхаславакіі Масарык, прыняўшы мэморыял рабочай дэлегацыі аб безработцы, заявіў ёй, што лік безработных у Чэхіі шмат меншы, як у суседніх краёх, а навет чымся ў Францыі, Англіі і Амэрыцы. Пасьля прэзыдэнт запэўніў, што ўрад стараецца, каб краёвая прамысловасьць дала работу ўсім чэхаславацкім рабочым.

— Варшаўская газ. „Rzeczpospolita“ паведамляе, што, паводлуг вестак з Жэнэвы, віленскую справу разрашыць Збор Лігі Народаў. Ёсьць чуткі, што існуе замер змушэньня Польшчы да прынятку другога проекту Гюманса; існуе, як вядома замер аб прылучэньні да віленскага кантону кавалка зямлі, які творыць супольную граніцу Польшчы й Лацьвіі, а Рыскім дагаворам прызнаны Польшчы.

## Жыцьцё провінцыі.

### Наваградзкія вучыцялі адмовіліся ехаць на курсы ў Кракаў.

**НАВАГРАДАК.**

Як ведама, школьныя інспэктары, каб зусім парухаць беларускую школу, усіх беларускіх вучыцялёў што ня скончылі 8 кл. гімн, або вучыцельскай сэмінарыі, звольнілі, а скончыўшым гэтыя школы загадалі з пачатку сёлетняга школьнага году ехаць на 10 месячныя курсы польскае мовы ў Кракаў. Адны з інспэктароў, як прыкладам Валожынскі, пасылаючы на гэныя курсы, вымагаюць ад беларускіх вучыцялёў пісьменнага забавязаньня, што пасьля курсаў яны будуць вучыць у польскіх школах. Другія інспэктары, праўда, гэткага забавязаньня не бяруць, але відаць таксама э гэтаю мэтаю пасылаюць на гэныя курсы. Бо, прыкл., інспэктар Вялейск. павету, калі вучыцялі падалі заявы, што па сканчэньні курсаў будуць вучыць у беларускіх школах, гэткіх заяваў ня прыняў.

Вучыцельства Наваградзкага павету катэгорычна адмовілася ехаць на кракаўскія курсы. У наваградзкім павеце каля 500 вучыцялёў-беларусаў. **М.**

### ЛІДЗКІ ПАВЕТ.

**Пажар і арышты.**

28 жніўня г.г. а 1-ай гадзіне ўначы ад невядомай прычыны загарэлася папоўскае гумно у Тургэйску, Арлянскае воласьці. Згарэла каля 60 коп збожжа, сена і карова, а таксама і інвэнтар.

Па указаньню сьвяшчэньніка Трашуціна, заарыштаванымі аказаліся Аляксандар Патапчык разам з сынам Хведарам, якіх закавалі ў ланцугі і адправілі ў Орлу.

Сяляне катэгорычна гавораць, што Патапчыкі гэтага не зрабілі, а сьвяшчэньнік на іх са злосьці нагаварыў паліцыі, дадаўшы, што Хведар Патапчык езьдзіць у Вільню, разносіць розныя весткі і агітуе проціў паноў.

**Забойства.**

15-га ліпня г. г. ў в. Мінатовічы, Жалудзкае воласьці быў забіты селянін Літкоўскі, ў якога забралі невядомыя каля 7 мільёнаў польскіх марак.

З прычыны гэтага паліцыя арыштавала некалькі жалудзкіх жыдоў, якія былі западозраны ў гэтым забойсьцьве.

**Мудры адказ.**

Інспэктар Лідзкага павету Вус на мае запытаньне аб адчыненьні беларускае школы даў такі адказ: ніякіх беларускіх школ адчыніць у павеце ён не пазволіць, беларускія школы можна адчыняць толькі у Сярэдняй Ліцьве.

**Настаўнік.**

**М-ка РУДОМІН, Віленск. пав.**

Саюз Работнікаў Хлебаробаў 11-га верасьня згуляў беларускае ігрышча ў мяст. Рудоміне. Прадстаўлена было: „Чорт і баба“ Аляхновіча і „Зьбянтэжаны Саўка“ Л. Родзевіча і дэклямацыі: „Ворагам беларушчыны“, „Сваяком па гутарцы“, „Гэй да зор“ і інш. Ігралі мастакі Віленскай беларускай трупы, ігралі добра, дружна, як вышкаленыя мастакі, за што адтрымалі шчырае, шумнае прывітаньне ад публікі. А публікі было паўнюсенька —ўсё наш сярмяжны люд ад сахі і бараны, з роднай мовай, з нацыянальным гартам. Чуючы гэты свабодны сьмех, з якім прашлі абодва жарты, бачачы разьвогненыя твары і вялікі энтузыязм у час дэклямацыі, чулася, што жывець і магутная наша вера, наша праўда. Вопляскам ня было канца, а п‘ескі да таго ўпадабалі, што прасілі, каб паўтарыць!.. Пасьля прадстаўленьня былі танцы на залі, дзе скакалі з учасьцем артыстаў лявоніху, кадрыль і інш. На прадстаўленьні быў прысутны і Рудомінскі ксёндз, вельмі паважаны праз тутэйшае сялянства. Расходзячыся публіка прасіла артыстаў часьцей ладзіць беларускія прадстаўленьні.

Прыемна побач з тым ад‘значыць, што наш нацыянальны рух ідзе сьмелым поступам уперад. Здаецца Страж Крэсова так ужо стараецца, пацее каля нашага цёмнага селяніна, так хітра расстаўляе сеткі і перагародкі і вось такі спэктакль, абрэзаны цэнзурай ды колькі родных цёплых слоў усё руйнуюць, і наша народная беларуская гушча зноў выходзе „на родны вольны свой прастор“. І гэта ў 8—10 вёрст ад Вільні!

**Ар—скі.**

**М-ка ЖАЛУДАК, Лідзкага пав.**

У нашым мястэчку ёсьць бальніца, якая прыносіць нам—сялянам немалую карысьць тым, што лечаць там бедных людзей. Але разам з карысьцяй ёсьць і вялікая шкода. Бяда ў тым, што кормяць хворых надта кепска, а пайкі, што адпушчаюцца для хворых ідуць мусі кудысьці на старану, бо бедным хворым даводзіцца харчавацца з торбы і кошыка. Кожны дзень цягнуцца да бальніцы сваякі хворых з хлебам, маслам, яйцамі і кілбасою. Вось ад гэтага і вялікая шкода, бо бальніца напоўнена хворымі на

шоў з ёю да народнага камісара Бэрсона і іншых. Там з расколу вельмі цешыліся, аднак рэзалюцыя была бальшавіком гэтак нясмачнаю, што яе прыказана было конфіскаваць. Шантыру, відаць, недвазначна было сказана, што калі Зьезд не пагодзіцца з народнымі камісарамі, дык ён будзе сілаю разагнаны.

Знаёмячы з гэтым сваю фракцыю Шантыр не адважыўся запрапанаваць згоду з бальшавікамі-камісарамі, але не прапанаваў таксама адкінуць усялякую думку аб перагаворах з імі.

Гэтая апошняя прапазыцыя была выстаўлена тымі, хто ўвесь час выступаў у „левым цячэньні“ проці Шантыра і тут яго павадырская роля была скончана. Фальскі тут-жа адрокся, як ён сказаў «от демагогіи товарища Шантыра» і, бліснуўшы яркай лідэрскай маланкаю, Шантыр за адну ноч зьнік, выехаўшы ў Бабруйск, адкуль ён быў дэлегаваны на Зьезд.

Апрача расколу на правых і левых, Зьезд пачаў дзяліцца на зямлячаствы—дэлегаты з Магілёўшчыны складалі Магілёўскае замлячаства, дэлегаты з Меншчыны—Менскае зямлячаства і г. д.

Зямлячаствы шмат памаглі злучэньню Зьезду, бо ў іх сходзіліся і, так званыя, левыя і правыя і пераконваліся, што яны ня маюць за што сварыцца.

Мелі зямлячаствы і свой слабы бок, як напрыклад, выстаўляньне сваіх дробных, провінцыяльных інтарэсаў, але гэтым займалася, наколькі помніцца, толькі немаль што адно Магілёўскае зямлячаства.

Самі-ж магілёўцы й выдумалі гэты спосаб—арганізоўвацца ў зямлячаствы.

На гэтых аўторах зямлячстваў і на самых зямлячаствах мы мусім крыху затрымацца.

Рэч у тым, што на Зьезьдзе яны выказвалі адкрытае масквафільства, але яно тлумачылася проста.

Рэч у тым, што аўторы зямлячстваў складаліся на Зьезьдзе з тае групы, якая прыехала ў Менск з Петраграду, як „Областной Белорусскій Комитет при Всероссійском Совѣтѣ Крестьянских Депутатов“. Гэту групу на Зьезьдзе так і называлі „областниками“. На чале іх стаялі змаскалеўшыя беларусы—Вазіла, Канчар і інш. «Областники» былі павадырамі свайго—магілёўскага—зямлячаства і пёрлі ў Маскву сьлепатою.

Вазіла, трапляючы да трыбуны (а ён любіў яе) дэклямаваў вершы... Некрасава і іншыя расейскія народніцкія творы, але гэта дэклямацыя падабалася шчыра толькі двом-тром яго земляком з народных вучыцялёў, моцна змаскаленых пабеданосцаўскімі школамі.

Нельга абмінуць таго, што магілёўцы з «Областного Комитета при Всероссійском»... і г. д., апынуўшыся ні пры чым пасьля бальшавіцкага перавароту ў Петраградзе, пасьпешна залажылі там-жа свой «Областной Комитет» і, не прызнаючы, пакуль што, за цэнтр „Вялікай Беларускай Рады“ прабавалі з Петраграду склікаць у... Менску Усебеларускі Зьезд, гэта значыць, якраз тое самае, што ўжо рабіла Вялікая Рада.

На скліканьне зьезду Канчару было выдана на рукі з Смольнага Інстытуту (бальшавіцкі цэнтр у Петраградзе) 50.000 рублёў. Трэба сказаць праўду, што частка гэтых грошай, пасьля няўдачы магілёўцаў склікаць «свой» Зьезд, была аддана Канчарам на расходы па арганізацыі, ўжо скліканага Вялікаю Радаю, Усебеларускага Зьезду, на які былі дапушчаны і «областники». Сярод гэтае групы была грэнадзерскага выгляду, паненка Юр‘ева, якая ўжо навет пачала,—галоўным чынам сялянам,—раздаваць „свае“ дэлегацкія білецікі на Зьезд, але ў гэта ўмяшаліся сябры Зьезду беларусы-матросы з Петраграду і, растлумачыўшы сялянам у чым рэч, прыгразілі Юр‘евай, што яе правакацыя будзе спынена, калі гэтага трэ‘будзе, сілаю. Сшытак нарыхтованых білетаў «областников» быў перадань прэзыдыуму Зьезду і гэткія штукі больш не паўтараліся. Магілёўцы з петраградзкага абласнога камітэту зьехалі да першых роляў у сваім зямлячасьцьве і там маглі сабе дэклямаваць аб Вялікай Расеі, сколькі хацелі. Сьледам за магілёўцамі пачалі гуртавацца ў зямлячаствы: менчукі, віцебляне, віленцы, смаленцы, горадзенчукі.

Зямлячаствы пачалі рыхтаваць свае дэкляраціы, раскол Зьезду на правых і левых, пасьля банкруцтва Шантыра, сам сабою ліквідаваўся, чаму памаглі шмат два вольных даклады - лекцыі: 1) ксяндза Гадлеўскага аб полацкім пэрыядзе беларускай гісторыі і 2) вялікага вучонага-беларуса проф. Карскага аб асаблівасьцях беларускай мовы, тэрыторыі, этнографіі Беларусі і інш.

Нельга абмінуць аднаго дробнага здарэньня, якое гэтак сама моцна памагло Зьезду зьліцца ў адно цэлае—гэта нацыяналізацыя Менскага Шляхоцкага Дому.

Па прапазыцыі П. Аляксюка Зьезд аднагалосна пастанавіў абвясьціць Шляхоцкі Дом уласнасьцю Беларускага Народу.

Гэтае пяцьмінютнае здарэньне давяло ўсіх да зразуменьня таго, што ўсе сябры Зьезду—дзеці аднаго народу. Ніводзін голас проці нацыяналізацыі панскага дому не протэставаў, бо ніводнага пана на Зьезьдзе ня было.

**Краўцоў Макар.**

(Працяг будзе).

ўсе тры гатункі тыфусу, пры якім палажэньні цьвёрдая яда толькі губіць людзей. Нядаўна быў гэткі выпадак. Селянін 35 гадоў з вёскі Казінцаў захварэў на брушны тыфус. Пасьля двох дзён лячэньня, хворы стаў папраўляцца, але на бяду дастаў недзе ад тарбэчнікаў, што кормяць кілбасамі сваіх хворых, кусок кілбасы і зьеў, а на другі дзень памёр, пакінуўшы бацьку 75 гадоў і двух малых хлопчыкаў—сірот. Было-б добра, каб бальнічны пэрсональ даглядаў за хворымі, не дапушчаючы гэткіх выпадкаў, бо выходзіць, што часам, замест карысьці, бальніца прыносіць шкоду.

**Селянін.**

## Народ дамагаецца беларускае школы, а польскае ня хоча.

**Вёска Арляняты**, Краўское вол., Ашмянскага павету. У гэтай вёсцы жывуць адны каталікі і ўсе, дзякуй Богу, сьвядомыя беларусы. Сёлета тут увесь год была свая беларуская пачаткавая школа. Вучыла ў школе вельмі добра прыгатаваная вучыцелька Марыя Станкевічанка. Дзяцей вучылася 75. Людцы нашыя не маглі нацешыцца з свае школы. Аж тут нядаўна ні з таго ні з сяго, прысылае ў гэтую вёску школьны інспэктар польскую вучыцельку. Але гаспадары на польскую школу не згадзіліся і вучыцелькі не прынялі. Арляняты дамагаюцца беларускае школы.

**П. Зарэцкі.**

## Беларуская школа.

**Забрэская воласьць, Валожынскага павету.**

У леташнім 1920 годзе ў Забрэскай воласьці адчынена каля 18-цёх беларускіх пачаткавых школ і назначаны ў іх тутэйшыя беларускія вучыцялі. З гэтых вучыцялёў амаль не палавіна ёсьць няскончыўшых вучыцельскае сэмінарыі, але ўсё-ж такі не з малой адукацыяй. Іншыя з іх скончылі 4-х кл. вышэйшую пачаткавую школу і праслухалі годнія, альбо 2-х годнія вучыцельскія пэдагогічныя курсы; другія ўтараклясную вучыцельскую школу (второклассное училище), ці V—VI клясаў гімназіі. А іншыя навет ёсьць, што здалі экзамен на званьне вучыцеля.

Усе вучыцялі, якія дасталі школы ў роднай мове, вельмі ахвотна прыняліся да працы. Нягледзячы на тое, што амаль ня ў кожнай вёсцы за вайну не засталося, ані школьнага будынку, ані школьных прыладаў, усё-ж такі, ў працягу школьнага году, нашы вучыцялі шмат чаго добрага зрабілі для свае школы. Праўда, што ня цікава паводзілася беларускаму вучыцелю ў яго школе. Ня раз яго палохалі паліцыянты арыштам і адбіралі будынак з-пад школы. Ніводзін беларускі вучыцель у працягу школьнага году не дастаў прадуктаў, ні на школу ні на сябе, як даставалі польскія вучыцялі, гэтае воласьці. Але нішто не магло падарваць энэргіі ў нашага вучыцеля, а наадворот, яшчэ балей у яго знаходзілася духу, сілы для барацьбы за сваю нацыянальную школу.

Нарэшце, калі гэтую воласьць ад Сярэдняе Літвы прылучылі да Польскага калідору, дык беларуская школа апынулася ў горшых варунках.

Валожынскі школьны інспэктар адразу апавясьціў беларускім вучыцялём, што ў яго раёне беларускік школ ня будзе і ўсіх беларускіх вучыцялёў, якія з адукацыяй не вучыцельскае сэмінарыі, звольніў. Тых-жа вучыцялёў, якія скончылі вучыцельскую сэмінарыю п. інспэктар увес час вельмі ўгаварвае ехаць на годнія польскія курсы ў Кракаў. І калі хто з гэтых вучыцялёў адмовіўся ехаць у Кракаў, дык той папаў у лічбу звольненых і з ліпня месяца, як звольнены, пэнсіі не дастае. Тыя-ж вуцыцялі, якія далі згоду ехаць у Кракаў, лічацца ў сваіх школах і дастаюць пэнсію. І навет цяпер, калі падыйшоў школьны год, дык п. інспэктар сваім „кракаўцам“ выдаў прадукты і павялічыў балей, як у два разы, пэнсію, усё дзеля таго, каб тыя не спрачаліся ехаць у Кракаў. Школы іх астаюцца незанятымі і будуць чакаць сваіх вучыцялёў, пакуль яны вернуцца з Кракава. Іншыя-ж школы звольненых вучыцялёў займаюцца польскімі вучыцялямі, ці вучыцелькамі, якія ўжо пачынаюць паказавацца на свае месцы.

Вось 7 верасьня ў школу вёскі Гарадзешня на месца вучыцеля грамадзяніна М. Станкевіча II, які скончыў Барунскую 2-х клясовую вучыцельскую школу, выдзержаў экзамен на вучыцеля і працаваў у гэтай школе пяць гадоў, прыехала польская вучыцелька. Пайшла яна да старасты і загадала яму згукаць грамадзян на агульны сход Калі ўсе грамадзяне сабраліся, дык гэтая вучыцелька папольску пачала тлумачыць, што яна прыехала вучыць іх дзяцей і што для гэтага трэба знайсьці ў вёсцы дзьве добрыя хаты, выбеліць абедзьве і хораша прыбраць; адну пад школу, а другую пад яе кватэру. „Ну добра,— пытае адзін грамадзянін,—а як вы будзеце вучыць, так як гаворыце, ці панашаму?“ „Nie proszę pana, ja będę uczyć popolsku“.

Пачуўшы такія словы, ўсе раптам заварушыліся, як іх якая-сь ліхая муха ўкусіла за твар. „Не,—крычаць зараз некалькі галасоў, — няма ў нас хаты пад польскую школу і пад кватэру польскае вучыцелькі. Ёсьць у нас хата толькі пад сваю школу і ёсьць свой вучыцель!“ Вучыцелька стала даказаваць, што ў іх школе беларускі вучыцель ня будзе, бо яна прыслана на яго месца. На гэта грамадзяне адказалі: „Калі нам забароняць пасвойму вучыць, напэўна дзяцей ня пусьцім іх ў польскую школу“. На гэтым сход кончыўся і вучыцелька нічога не дабіўшыся ад грамадзян пайшла да інспэктара ў Валожына.

Але цікавую гісторыю пра гэтую вучыцельку расказаваў адзін тутэйшы грамадзянін. Якраз у той дзень ён хадзіў у воласьць па пісьмы для свае вёскі. „Увайшоў я,—кажа,—ў канцэлярыю, ажно там, апрача сэкрэтара, сядзіць нейкая паненка і піша. Напісала і падала сэкрэтару. Сэкрэтар узяў журнал, запісаў гэтую паперку і напісаў яшчэ ёй і пайшлі на двор. Пасьля сэкрэтар вярнуўся і прыйшла другая паненка ў акулярах. Сэкрэтар узяў тую паперку, што пісала першая паненка, паказавае гэтай і кажа: „А то-ж Гарадзецкая вучыцелька пісала!“ Гэта паненка чытае і на ўсю моц сьмяецца. А пасьля пытае ў сэкрэтара ці ёй ня стыдна было пісаць?“ Сэкрэтар паціснуў плячыма і кажа: „Ну як яна будзе вучыць, калі пяць слоў ня можа напісаць правільна ні граматычна, ні лёгічна“.

Дык мусіць гэтая вучыцелька скончыла V клясаў польскае вучыцельскае сэмінарыі, бо інспэктар кажа, што з ніжэйшаю адукацыяй у іх вучыцялёў няма. А ці-ж гэта праўда?

Праз два дні гэтая вучыцелька, па загаду п. інспэктара, прыехала ў вёску Гарадзешня з войтам, але грамадзяне тое самае адказалі ёй, што і ў першы раз. І вучыцелька адкуль прыехала, туды й паехала.

**Падарожны.**

**М. КЛЕЦАК, Несьвіжскага пав.**

У месьце Клецку за апошнія часы адбыліся пад кіраўніцтвам грам. Русака два спэктаклі 27 жніўня і 4 верасьня.

Ставілі „Птушку шчасьця“ Аляховіча. Трэба падзякаваць кіраўніку за яго труды, бо наша публіка на сцэне ў Клецку ніколі ня бачыла такой рэчы і такой прыгожай ігры. Асабліва добра ігралі другі раз, чаго трудна было чакаць, каб у такім мястэчку, як Клецак можна было падабраць і вышкаліць людзей, якія-б маглі, хоць здавольваюча згуляць гэту п'есу. Вершы падабраны і прадэклямованы былі вельмі ўдачна. Дэклямаваліся вершы Ясакара, Купалы, Коласа і інш. На паўтарэньне гэтае п'есы 4 верасьня прышло многа вясковых настаунікаў, якія посьле спэктаклю запрашалі грам. Русака прыехаць да іх і паставіць спэктаклі, але ён адмовіўся тым, што мае выехаць у Несьвіж і ўладзіць ігрышча на карысьць новаадчыненай Беларускай гімназіі ў Несьвіжы.

**Настаўнік с-пад Клецку.**

## Як тут разумець?

**М-ка ВАЛОЖЫНА**, Валожынскага павету.

У мястэчку Валожыне ў аднэй будыніне побач зьмяшчаюцца дзьве канцэлярыі: школьнага інспэктарату і павятовага старасты.

Калі гр. Міхал Станкевіч панёс паперу ад грамадзян вёскі Гарадзешня, Забрэскае воласьці, ў якой яны прасілі п. школьнага інспэктара аб дазволе мець ім беларускую пачаткавую школу, дык на гэта ў канцэлярыі школьнага інспэктарату, яму сказалі, што беларускіх школ ня будзе, дзеля таго, што тут ніякіх беларусоў няма.

У канцэлярыі-ж павятовага старасты выдаюць усім тутэйшым людзём пашпарты і ў радку: „narodowość“ (нацыя)— пішуць «białorusin» (беларус).

Дык цікава, мусіць гэтыя канцэлярыі нічога адна аб аднэй ня ведаюць?

**Беларус.**

## Беларуская хроніка.

**Резалюцыя „Т-ва Бел. Школы.**

На агульным вялікім сходзе «Т-ва Бел. Шк.» прынята пастанова:

І. Кожны сябра (сяброўка) Т-ва абавязаны ўсімі сіламі памагаць пашырэньню Т-ва, каб яно як найбарджэй магло ахапіць усё беларускае грамадзянства і ўвесь беларускі народ.

ІІ. Даручаецца Цэнтральнай Школьнай Радзе вымагаць ад улады і шырыць думку ў народзе з мэтай:

1) зрабіць магчымым істнаваньне беларускіх пачатковых школ на ўсіх беларускіх землях;

2) адчыненьня зараз-жа Беларускае Вучыцельскае сэмінарыі, а цераз які-сь час яшчэ некалькіх беларускіх вучыцельскіх сэмінарыяў;

3) адчыненьня ў сёлетнім школьным годзе беларускіх кароткачасовых курсаў для вучыцялёў пачатковы школ;

4) каб субсыд'яваліся беларускія сярэднія школы;

5) каб у беларускіх сярэдніх школах пераходнага тыпу з мовай выкладовай мяшанай беларуска-маскоўскай, субсыд'яваліся клясы з беларускай выкладовай мовай.

**Альгэбра ў беларускай мове.**

Вышла з друку і прадаецца ў „Беларускай кнігарні“ „Элемэнтарная альгэбра паводле Кіселёва“. Пераклаў на беларускую мову Антон Луцкевіч. Цана 250 мар.

**Ахвяра „Бел. Звону“.**

Аматарскі гуртoк артыстаў у Клецку ахвяраваў нашай часопісі 500 марак.

**Корэспондэнт у Прагу.**

Наша рэдакцыя пасылае ў Прагу на час Беларускай нарады корэспондэнтам грам. Макара Косьцевіча, які 21 верасьня падаў у Польскую Дэлегатуру ў Вільні прашэньне аб загранічным пашпарце.

## ТУТЭЙШАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

**Гімнастычныя курсы.**

У скорым часе пачнуцца ў Вільні гімнастычныя курсы. Арганізатарам іх зьяўляецца п. Какоўскі (Юраўскі праспэкт, 20, 2). Даўно ведама, што гімнастыка зьяўляецца важным прадметам у школьным узгадаваньні, а тымчасам у нас дагэтуль зусім няма вучыцялёў гімнастыкі. Дзеля гэтага гімнастычныя курсы для нас, беларусаў, маюць важнае значэньне і трэба жадаць, каб як найбалей маладых беларусаў і беларусак паступіла і скончыла гэныя курсы. Пэўна таксама Цэнтральная Беларуская школьная Рада скіруе хоць некалькі мясцовых беларускіх вучыцялёў на гэныя курсы.

**Ў Літоўскай Гімназіі..**

Ў №212 літоўскае часопісі „Vilnius“ за 21 г. м. знаходзім гэткую заметку аб Літоўскай Гімназіі:

„Учора, 20 верасьня, 1-я Віл. Мужчынская Гімназія адтрымала з Дэпартамэнту Адбудовы, Гандлю й Прамысловасьці пісьмо з трэбаваньнем, каб Літ. Гімназія апаражніла да 20 верасьня (? Рэд.) будынак гімназіі разам з кватэрай дырэктара і старажоў, дзеля таго, што будынак перадаецца Дэпартамэнту Прасьветы. Літ. Гімназія павінна да Новага Году знайсьці сабе памяшканьне, а, пакуль што, мае права весьці заняткі ў тым самым будынку пасьля палудня. Вось, дык польская справядлівасьць“.

## Ад Рэдакцыі.

**З прычыны моцнае дарагоўлі цана асобнага нумару «Б. З.» паднята да 30 мк., падпіска на 3 месяцы да 400 мк.**

**Прамова гэн. Жэлігоўскага.**

11 г. м. ад'яжджаў апошні транспорт здэмобілізованых крулявякаў і галічан, да якіх гэн. Жэлігоўскі меў гэткую, досіць цікавую, прамову, якую тлумачым з мясцовае „Gazety Krajowej“:

„Жаўнеры! Прыехаў я павітаць вас. Ад'яжджаеце дадому можа ня так выпасажаныя, як належала-б; ня месца, аднак з гэтае прычыны, жалю і горачы, бо памятайце, што дзяржава наша істнуе толькі два гады й арганізуецца, вядучы вайну. Дык памятайце аб гэтым, хай кожны знойдзе на дне сэрца адказ, што толькі сучасныя варункі не пазваляюць разьвітаць вас так, як мы хацелі-б. Будзьце пераконаны, што ўсё грамадзянства мае для вас глыбокую ўдзячнасьць, бо кожны ведае, што толькі жыцьцём і крывёю жаўнера мы адваявалі вольную Бацькаўшчыну. Удзячнасьць для вас застанецца ў сэрцах усіх назаўсёды, а асабліва зямля віленская, якую грудзі вашыя засланялі і не пазволілі адарваць ад маці, ад Польшчы, захавае вас назаўсёды ў сваёй удзячнай памяці. Вяртаецеся дамоў, ня ўсе паходзіце з крэсаў і Віленшчыны, дык скажэце там у сябе, што тут таксама б'юцца польскія сэрцы і цьвіце любоў да нашай Маці Бацькаўшчыны“.

**У саюзе работнікаў сельск. гаспадаркі.**

У Управу Саюзу паступіла заява ад арандатара Язэпа Гроця, з маёнтку Віткі, Варнянскай воласьці; жаліцца, што пан Дзеканскі яго высяляе, ня маючы на гэта ніякае асновы.

Парабак маёнтку Пілепы, Браніслаў Рынковіч жаліцца, што „Ochrona Serca Jezusowego“ звальняе яго з службы ў маёнтку, а таксама і з кватэры. Паміж іншым Браніслаў Рынковіч праслужыў чатыры месяцы самага гарачага летняга часу, дастаючы толькі па 3 пуды збожжа і 200 марак на месяц. Цяпер ён застаецца на волі лёсу з сям'ёю, бо ня мае ніякіх спосабаў да жыцьця.

Праўленьне Саюзу выказвае шчырую падзяку ніжэйпаіменаваным асобам, ахвяраваўшым на саюз: 1) А. Карабач—5.500 м., 2) М. Міхалоўскі—100 м., 3) К. Мілош — 100 м., 4) С. Карповіч—100 м. Разам—5.800 м.

**Праўленьне Саюзу.**

## Беларускі тэатр.

У суботу, 25 верасьня Белар. Музыкальны Драматычны Гурток ладзіць вечар у сваім памяшканьні (Біскупская 12) пастаўлена будзе п'еса З. Белай „Пацалунак Юды“. Ролі абсаджаны лепшымі мастакамі нашай сцэны.

## Паштовая скрынка.

**Костусю Маrускаму.** Валожын. Пісьмы Вашы атрымалі. Дзякуем. Кніжкі для дзяцей у Беларуск. Кнігарні ёсьць.

## Віленская біржа.

За 21 верасьня 1921 г.

| | | |
|---|---|---|
| Даляры | 4800 | „ |
| Франкі | — | „ |
| Фунты штэрлінгаў | — | „ |
| Ост.-маркі (1000) | 46.50 | „ |
| Нямецк. маркі (100) | 47.25 | „ |
| 10 руб. золатам | 23000 | „ |
| 1 „ серабр. | — | „ |
| 1 „ дробнымі | — | „ |



Друкарня „Віленскага Выдавецтва“ Б. А. Клецкіна, М.-Сьцяпанаўская, 23. Рэдактар-Выдавец ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.